# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 44 (254) 5 — 11 лістапада 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


# У ПАЛОНЕ ПАЛІГІМНІІ







Напрыканцы дажджлівага кастрычніка ў Мінск прыйшла добрая вестка — распачаў сваю работу міжнародны конкурс піяністаў "Фартэпіяна: Мінск-96". З усіх куткоў планеты ў сталіцу Беларусі з'ехаліся віртуозы-выканаўцы класічнай музыкі. Трынаццаць дзён прыхільнікі і служыцелі Палігімніі будуць у палоне гармоніі творчасці Бетховена і Брамса, Чайкоўскага і Шапэна. Далучэнне да высокага і ачышчэнне высокім у наш нялёгкі час, калі грамадства хварэе на "сардэчную недастатковасць", — гэта не так і мала. Прайшоўшы праз ачышчальны катарсіс, магчыма, і мы спазнаем слодыч гармоніі, якая заўсёды абуджае душу і робіць яе спагаднай і міласэрнай...

*Матэрыял чытайце на стар. 2.*







Фота Генадзя ЖЫНКОВА

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# МЕСЦА СУСТРЭЧЫ ЗМЯНІЦЬ НЕЛЬГА

***У апошні дзень кастрычніка ў сталіцы рэспублікі пачаўся міжнародны конкурс музыкантаў-выканаўцаў "Фартэпіяна. Мінск-96".***

***Ва ўсім свеце праводзяцца міжнародныя конкурсы маладых выканаўцаў. Адны з іх, прэстыжныя, ужо маюць сваю працяглую гісторыю, другія — толькі набываюць вядомасць і аўтарытэт. Але ў любым выпадку, краіна, якая наладжвае такое творчае спаборніцтва, павінна мець на гэта пэўнае маральнае і творчае права. Думаецца, што ў Беларусі падставай для правядзення конкурсу з'явіліся, ці не ў першую чаргу, шматлікія перамогі нашых маладых музыкантаў (і ў першую чаргу піяністаў) на самых вядомых міжнародных спаборніцтвах. Такім чынам усур'ёз было заяўлена пра існаванне на Беларусі ўласнай фартэпіяннай школы, якая мае традыцыі, свае пачынальнікаў. Імёны маладых піяністаў Цімура Сергіені, Андрэя Паначэўнага, Івана Сцепанцова, Юрыя Блінова, Дзмітрыя Марозава, Іосіфа Сяргея ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі.***

***Але вернемся да міжнароднага конкурсу. Напярэдадні ў Белдзяржфілармоніі адбылася прэс-канферэнцыя. Яе ладзіў намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Пятровіч Рылатка як старшыня аргкамітэта конкурсу. Вось што ён расказаў:***

— Да гэтай важнай падзеі мы рыхтаваліся два гады. Добры творчы імпульс праца аргкамітэта набыла пасля сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам, які з уласнага фонду выдзеліў філармоніі ў якасці падарунка новы раяль "Стэнвэй", а таксама 5.000 долараў для ўручэння пераможцу ў якасці Гран-пры.

У конкурсе ўдзельнічаюць прадстаўнікі трынаццаці краін. Гэта Арменія, Беларусь, Грузія, Казахстан, Латвія, Літва, Малдова, Расія, Узбекістан, Украіна, Эстонія, а таксама Рэспубліка Карэя, Кітай, Польшча. Аргкамітэт атрымаў 120 заявак. Шчыра кажучы, мы не чакалі такой колькасці выканаўцаў. Інфармацыя пра будучае музычнае спаборніцтва была разаслана ў 154 краіны, у тым ліку — Аўстралію. Праз беларускія пасольствы і дыпламатычныя прадстаўніцтвы за мяжой яна трапіла ва ўсе краіны Еўропы, буйнейшыя кансерваторыі і вышэйшыя музычныя школы Расіі, Украіны, Прыбалтыкі. Умовы конкурсу былі змешчаны нават ў фартэпіянным часопісе, які выходзіць у Лондане. Асаблівa прадстаўнічыя каманды Беларусі — 38, Расіі — 31 і Украіны — 33 музыканты.

Наш конкурс адпавядае ўсім міжнародным стандартам. Нам удалося скласці даволі моцнае і прадстаўнічае журы, якое мае двух старшынь. Адзін — Віктар Маржанаў, славуты рускі піяніст, народны артыст СССР, прафесар Маскоўскай, Варшаўскай і Трасінгенскай кансерваторый, які праводзіў міжнародныя майстар-класы ў 18 краінах свету. Другі старшыня журы — наш суайчыннік Ігар Алоўнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Акадэміі музыкі, лаўрэат міжнароднага конкурсу. Сярод членаў журы — Джозэф Банавец (ЗША), Казімеж Гержод (Польшча), Каця Колева (Францыя), Джузэпэ Марыёці (Італія), Арніс Зандманіс (Латвія), Юрый Гільдзюк, Зоя Качарская, Валянціна Рахленка, Уладзімір Нехаенка (Беларусь).

У арганізацыі і правядзенні конкурсу шмат дапамагаюць Мінгарвыканкам, Дзяржтэлерадыёкампанія, БелНДІ праблем культуры, Беларускі фонд Сораса. Можна было б пералічыць тут вялікі спіс спонсараў конкурсу, але 99 % укладзеных грошай — дзяржаўныя.

Калі чытач убачыць гэтыя радкі, на конкурсе будзе заканчвацца першы тур. А сам конкурс пачаўся 31 кастрычніка ў зале Белдзяржфілармоніі, дзе зранку прайшла жараб'ёўка ўдзельнікаў, а вечарам адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. У канцэрце выступілі Дзяржаўны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь (дырыжоры В.Собалеў і П.Вандзілоўскі) і саліст Дж. Банавец (ЗША).

Першы тур — гэта шэсць дзён праслухоўвання, напружаная, зранку і ўвечары, работа журы. Праграма першага тура ўключае класічныя і рамантычныя творы (але не санаты). Сярод мініяцюр абавязкова павінны быць творы той краіны, якую прадстаўляе ўдзельнік. У другім туры, які адбудзецца 7 — 8 лістапада, маладыя выканаўцы маюць магчымасць свабодна выбіраць праграму, але ў ёй павінны пераважаць санаты. Пераможцы другога тура выйдуць у трэці, дзе ўдзельнікам прапануецца выканаць канцэрт для фартэпіяна з аркестрам. Журы не будзе абмяркоўваць выступленні ўдзельнікаў. Яны ацэньваюцца па шкале ад 1 да 25 балаў. Сума балаў кожнага выканаўцы будзе абвяшчацца два разы на дзень.

І апошняе. На міжнародным конкурсе "Фартэпіяна. Мінск-96" вызначаны наступныя прэміі і ўзнагароды. І прэмія — 5 000 долараў, ІІ — 3 000 долараў, ІІІ прэмія — 1 500 долараў, а таксама тры заахвочвальныя прэміі па 500 долараў кожная. Урачыстае закрыццё конкурсу, узнагароджанне пераможцаў і канцэрт лаўрэатаў адбудуцца 12 лістапада ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі.

Пра тое, як разгортваецца на конкурсе творчае спаборніцтва, газета "Культура" раскажа ў наступным нумары.

**Наш кар.**

# VIVAT, ALMA MATER



31 кастрычніка, у Тэатры оперы і балета адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 75-годдзю Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка, прысутнічалі госці з замежжа, выпускнікі розных гадоў і цяперашнія студэнты.

*На здымках: выпускнік БДУ 1940 года Аркадзь Адамавіч Брыш — лаўрэат Дзяржаўнай і Ленінскай прэмій, Герой Сацыялістычнай Працы, Галоўны канструктар ядзерных боепрыпасаў; студэнты другога курса факультэта прыкладной матэматыкі (злева направа): Алена Афанасьева, Дзмітрый Беразовік, Ілля Лапуць і Вольга Міненка.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**



# ГЭТЫ ФАНТАСТЫЧНЫ МЕЛАДЫСТ

26 кастрычніка ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі ў рамках дзён Рэспублікі Малдова ў Беларусі адбыўся творчы вечар вядомага малдаўскага кампазітара. У гэты дзень тут сабраліся аматары музыкі і прыхільнікі таленту Я.Догі. Слухачы не падмануліся ў сваіх чаканнях. Падчас канцэрта гучала музыка розных жанраў: рамансы, песні да кінастужак, інструментальная музыка. Былі прадстаўлены і творы для дзяцей. Беларускі слухач раней ведаў Я.Догу як аўтара музыкі да кінафільмаў, але ў гэты кастрычніцкі вечар мы пераканаліся, якія разнастайныя жанравыя накірункі існуюць у творчасці Догі. Аказалася, што кампазітар вельмі любіць дзяцей і шмат для іх піша. У гэтай музыцы, нягледзячы на яе дзіцячыя сюжэты, адлюстраваліся добра знаёмыя і любімыя намі лірычныя бакі таленту Я.Догі: меладычная выразнасць, вакальная пластыка, рамантызм, паэтычнасць.

Была сярод выканаўцаў і знакамітая оперная спявачка, бліскучая Марыя Біешу, якая выканала рамансы "Радика" і "О, Гелий, не уходи, останься". Пасля выступу Леанід Сярэбранікаў, які праспяваў песні Догі з кінафільмаў "Гэты фантастычны, фантастычны, фантастычны свет" і "Марыя Мірабэла". Самыя лепшыя ўражанні пакінуў гэты вечар у прыхільнікаў творчасці Яўгена Догі.

**Алена СЯЎРУК**

# ПАДТРЫМКА ТАЛЕНАВІТАЙ МОЛАДЗІ

Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі аб'яўляе конкурс на наданне стыпендый моладзі, якая мае творчыя дасягненні ў галіне літаратуры, тэатра, кіно, выяўленчага мастацтва.

Творчыя дасягненні павінны быць пацверджаны на міжнародным, рэспубліканскім, абласным, гарадскім узроўні (дыплом выставы, конкурсу, фестывалю альбо рэцэнзіі крытыкі ў сродках масавай інфармацыі, аўтарскія публікацыі ў зборніках вершаў, прозы, сцэнарыяў).

Стыпендыі размяркоўваюцца па трох узроставых катэгорыях:

1 — да 16 гадоў (10 стыпендый);

2 — ад 16 да 20 гадоў (10 стыпендый);

3 — ад 20 да 25 гадоў (10 стыпендый).

Кандыдатуры прэтэндэнтаў павінны быць рэкамендаваныя творчым саюзам альбо Радай навучальнай установы (для навучэнцаў) і падтрыманы Упраўленнем культуры аблвыканкама або Мінгарвыканкама.

Стыпендыя за высокія творчыя дасягненні ўручаецца пры ўмове станоўчай паспяваемасці прэтэндэнта-навучэнца.

*Заяўкі адпаведнага ўзору накіроўваюцца да 29 лістапада 1996 г. па адрасе:*

*220048, г.Мінск, пр.Машэрава, 11, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне навучальных і навукова-даследчых устаноў. Тэлефон для даведак: 223-91-53.*

**Рада спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі**

# "КАЛІ МЯНЕ НЕ СТАНЕ..."

Лацінскае выслоўе гаворыць, што "Mors certa, hora incerta" — "Самае пэўнае ў жыцці — смерць", не вызначаная толькі яе гадзіна. Менавіта з прычыны няпэўнасці моманту смерці людзі павінны быць падрыхтаванымі да яе заўсёды. Гэтую мудрасць старажытных я ўзгадаў, паглядзеўшы 2 лістапада, у дзень Дзядоў, дакументальна-публіцыстычную кінастужку Беларускага тэлебачання "Калі мяне не стане...". Яе аўтары — сцэнарыст і вядучы Валянцін Тарас, рэжысёры Валеры Жыгалка і Сямён Шчаглоў, аператар Віктар Гуровіч.

Гэты фільм — элегія, разважанне на вечную тэму жыцця і смерці, тэма-загадка, якую на працягу сусветнай гісторыі спрабавалі разгадаць вялікія асобы — ад філосафаў да пісьменнікаў, ад вучоных-матэрыялістаў да алхімікаў, ад мастакоў да рэлігійных дзеячаў. Таму перад аўтарамі фільма стаяла надзвычай складаная задача: па-першае, не ўжываць банальныя прыёмы; па-другое, не паўтараць тое, што было сказана сотні разоў. Мяркую, што сваю інтанацыю, свой "залаты ключык" у разважах пра смерць і яе сутнасць як феномен Быцця і Смерці аўтары знайшлі.

Так, мы прыходзім у свет без усялякіх прычын, як вынік выпадковасці. Смерць — адзінае правіла жыцця, якое не ведае выключэнняў. Аднак тэма смерці заўсёды лічылася забароненай, непрыстойнай у былым савецкім грамадстве, якое, прапаведуючы аптымізм, першапачаткова і трывала шмат дзесяцігоддзяў было скіравана выключна на маладосць, моц і здароўе свайго паспалітага люду.



Некалі Валянцін Тарас напісаў невялікае апавяданне "Неверагодная смерць" — пра дзіўную незвычайнасць натуральнай смерці падчас вайны. У фільме, праўда, у некалькі іншым ракурсе, гучыць тая ж думка — пра права чалавека на натуральны адыход з жыцця, пра права яго на памяць аб сабе, пра абавязак жывых перад памерлымі. І важна было пазбегнуць матываў наканаванасці, пачуцця чалавечага страху перад непазбежным фіналам. І гэта таксама атрымалася ў аўтараў.

Трэба падкрэсліць, што ў фільме шмат падтэксту, які прымушае гледача думаць, спачуваць, разважаць. Такая пранізлівая, шчымлівая і адначасова мужная нота гучыць не часта на Беларускім тэлебачанні. Гэта яшчэ больш істотна ў наш час, калі эфір перапоўнены дробязнасцю, навязлівай рэкламай, эпізодамі жорсткасці, гвалту і сексу. Часам проста здаецца, што людзі і думаць перасталі пра вечнасць і хуткаплыннасць жыцця, пра непазбежнасць ягонага канца, да якога кожны з нас павінен рыхтавацца мужна і без мітусні.

Калі фільм закончыўся, у маіх вачах яшчэ доўга стаялі непаўторныя беларускія пейзажы, цэрквы ды касцёлы, ціхія правінцыйныя могілкі і Вядучы, які беражліва, ненавязліва запрашае нас, гледачоў, у Шлях да Храма Ісціны. І ўзгадаў я горкія словы мудраца Чаадаева: "Мы, прыходзячы ў свет, падобна да пазашлюбных дзяцей, без спадчыны, без сувязі з людзьмі, якія жылі на зямлі раней за нас, нічога не захоўваем у нашых сэрцах з тых урокаў, якія папярэднічалі нашаму ўласнаму існаванню... Мы расцем, але не спеем, рухаемся наперад, але па крывой лініі, што не вядзе да мэты". Крый Божа!

Стужка "Калі мяне не стане..." згодна з аўтарскай задумаю павінна атрымаць працяг у вялікім цыкле дакументальна-публіцыстычных, філасофска-лірычных кінанавел. Пра памяць, пра чалавечы абавязак, пра маральныя пошукі, пра ўсё тое, што складае духоўную і душэўную аснову Чалавека, як звяна бясконцага ланцуга жыцця народа, да якога гэты Чалавек належыць. Што ж, будзем з нецярплівасцю чакаць гэтага працягу...

**Барыс КРЭПАК**

# ПРА КНІГУ З МАЛЮНКАМІ...

4 — 5 лістапада 1996 года ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы адбудзецца міжнародны семінар "Ілюстрацыя ў дзіцячай кнізе і магчымасці яе выкарыстоўвання". Гэта зручны выпадак для абмеркавання актуальных пытанняў стану і перспектываў у важным накірунку работы з дзецьмі.

Арганізаваны семінар нямецкім культурным Цэнтрам імя Гётэ. Вядучыя нямецкія спецыялісты пазнаёмяць слухачоў са станам і перспектывамі ілюстрацыі нямецкай кнігі, папулярнымі формамі работы з чытачамі ў нямецкіх бібліятэках. Возьмуць самы актыўны ўдзел у рабоце семінара таксама беларускія спецыялісты. Тэматыка дакладаў рознабаковая. Актуальныя тэндэнцыі развіцця нямецкай дзіцячай і юнацкай літаратуры, самыя папулярныя сучасныя аўтары і іх творы, буйнейшыя нямецкія ілюстратары і накірункі развіцця сучаснай дзіцячай ілюстрацыі — гэта тэмы выступленняў сп. доктара Будэус-Будэ. Характару работы ілюстратара прысвечаны даклад сп.Элерман. "Карціна як падстава для размовы" — так называецца даклад сп.Грутнер.

З беларускага боку прадстаўлены адпаведныя даклады пра гісторыю і сучаснасць беларускай дзіцячай літаратуры і яе ілюстрацыю сп. Яфімавай і Марозавай, а таксама сп.Несцяровіч пра вопыт работы з кніжнай ілюстрацыяй у дзіцячых бібліятэках горада Мінска.

Хаця ўмовы дзейнасці нямецкіх і беларускіх бібліятэк значна адрозніваюцца, абмен вопытам работы ўзаемна ўзбагачае практыку. Дзякуючы сп. доктару Матульскаму і прадстаўленым ім відэафільмам удзельнікі семінара змогуць атрымаць многа карысных ведаў пра практыку работы бібліятэк Германіі.

Беларускія бібліятэкары лічаць гэты семінар яшчэ адным крокам на шляху супрацоўніцтва паміж спецыялістамі дзвюх дзяржаў і спадзяюцца, што ён будзе садзейнічаць паглыбленню работы з дзіцячай кнігай.

Сёння, калі выраслі цэлыя пакаленні амаль нечытаючых людзей, вельмі важна памагчы дзецям палюбіць кнігу. Тую самую кнігу з малюнкамі, якая застанецца ў памяці назаўсёды. Нездарма ж кажуць, што гэтак, як у дзяцінстве, не чытаецца потым ніколі.

**Наш кар.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Культура" выказвае спачуванне карэктару нашага штотыднёвіка Клімковіч Маі Міхайлаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Культура" выказвае спачуванне рэдактару тэатральнай газеты "Арлекін" Ганчарову Андрэю Уладзіміравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

СІТУАЦЫЯ

*З кастрычніка ў Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся прэм'ерны паказ спектакля "Камедыя пра злашчаснага Селяніна, яго жонку Маланку, арандатара Давіда і Чорта, які страціў сэнс існавання" паводле К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча. Прэм'ерным ён быў толькі для новастворанага Малога тэатра (былога, цяпер былога Альтэрнатыўнага), але не для гледачоў.*

*Адна мая сяброўка пасля прагляду "Камедыі" падзялілася ўражаннямі: гэта яркі нацыянальны спектакль, насычаны жывым народным гумарам. Склад дзейных асоб паўтарае набор персанажаў батлейкі. Стыль, характар герояў старажытнага лялечнага тэатра — завостраны, кідкі, каларытны — прысутнічае і ў акцёрскім выкананні. Наіўны, дурнаваты селянін Дзёмка (А.Шуляк), які ўвесь час наракае на Адама за сваё злашчаснае жыццё. Сварлівая, крыклівая, вастраносая жонка (С.Нікіфарава). Зусім не злы і не каварны, а, наадварот, мяккі, інтэлігентны і... смешны чорт у выкананні І.Забары. І Жыд, які нястомна расказвае пра шматлікіх пляменнікаў і пляменніц і распіхвае па сваіх незлічоных кішэнях усё, што трапляе на вочы,— гэты характар у эксцэнтрычнай манеры, знайшоўшы цікавы пластычны малюнак, бліскуча стварае Я.Жураўкін. Адным словам, сяброўка вельмі раіла паглядзець спектакль.*

*І вось выпала, выконваючы заданне рэдакцыі, паглядзець нарэшце "Камедыю". Пра свае ўражанні казаць не буду, адзначу толькі, што я смяяўся на працягу ўсяго спектакля і атрымаў сапраўдную асалоду ад прагляду. Пасля заканчэння я сустрэўся і паразмаўляў з людзьмі, якія стваралі гэты спектакль ці мелі да яго нейкае дачыненне.*

# "ШАЛОМ, ДЗЁМА!"

## ЦІ НЕТЭАТРАЛЬНЫЯ СПРОБЫ АДКАЗАЦЬ НА ПЫТАННЕ "КУДЫ ІСЦІ?"





**Андрэй АНДРОСІК, рэжысёр, адзін з пастаноўшчыкаў "Камедыі":** "Камедыя" была пастаўлена як дыпломны спектакль на курсе, што скончыў Акадэмію мастацтваў у 1991 годзе. Я кіраваў гэтым курсам. І ўжо там, у сценах Акадэміі, спектакль ішоў амаль год. Потым перайшоў у Альтэрнатыўны тэатр, якога, на жаль, сёння ўжо няма. І вось пяты год з нязменным поспехам "Камедыя" ідзе спачатку на сцэне Альтэрнатыўнага тэатра, а потым на тых сцэнах, якія арандаваліся для гэтага спектакля. Я думаю, ён яшчэ доўга можа існаваць і радаваць гледача.

**Міхась БАШУРА:** Што здарылася з Альтэрнатыўным тэатрам?

**А.А.:** Зараз церпіць уся культура, а Альтэрнатыўны тэатр стаў адной з першых ахвяр нашага стаўлення да яе. Людзі, якія дапамагалі тэатру, перасталі дапамагаць, сталі няздольныя яму дапамагаць. Яшчэ сказаліся нейкія ўнутраныя справы і тое, што Прыёрбанк забраў памяшканне. Так і адбылося, што тэатр загінуў. І тое, што адбылося сёння, можа — гэта нараджэнне новага тэатра. Гэта частка Альтэрнатыўнага тэатра, частка яго спектакляў, акцёраў, частка таго, што засталося і не хоча паміраць. І дай Бог яму не памерці.

**М.Б.:** Ёсць прычыны развалу ў самім калектыве?

**А.А.:** У тэатры заўсёды ўзнікаюць нейкія складаныя ўнутраныя праблемы, калі ён працуе даволі доўга. Гэта таксама частка таго, што адбылося, але я лічу — не асноўная частка.

**М.Б.:** Узнікае новы тэатр — Малы тэатр. Акцёрскі састаў застанецца той жа?

**А.А.:** Я так думаю, што Малы тэатр будзе існаваць на прынцыпах антрэпрыз, калі акцёры будуць набірацца на канкрэтны спектакль і будуць на нейкіх дамовах працаваць над ім.

**М.Б.:** Але "Камедыя" застанецца, я спадзяюся?

**А.А.:** Я таксама вельмі на гэта спадзяюся. Ён вельмі добра запушчаны, я маю на ўвазе першапачатковы запуск. Спектакль пабудаваны так, што ў ім шмат золата імправізацыі, і гэта робіць кожную пастаноўку жывой, вольнай.

**М.Б.:** Як вы ацэньваеце сітуацыю са знікненнем Альтэрнатыўнага тэатра?

**Артур ШУЛЯК, акцёр:** Вельмі дрэнна. Мне шкада Альтэрнатыўнага. У яго было імя. Сёння з Малым тэатрам шмат праблем можа ўзнікнуць — трэба заваёўваць гледача ўжо з новай назвай. А гэта даволі цяжкі працэс.

**Яўген ЖУРАЎКІН, акцёр:** Тое, што было, — было цудоўна. Тэатры нараджаюцца, старэюць, паміраюць. І не варта было цягнуць паміраючы тэатр. Традыцыі змяніліся, умовы змяніліся. Былі і мы рысакамі ў свой час. А зараз, можа быць, час іншы, патрэбны тэатр іншай формы, магчыма, малы.

**М.Б.:** Значыць, Альтэрнатыўны тэатр аджыў сваё, а Малы тэатр ідзе ў нагу з часам?

**Я.Ж.:** Проста ва ўмовах, у якія ён трапіў, Альтэрнатыўны тэатр не жыццядзейны. Так ружы не квітнеюць у Арктыцы. Зараз спрабуецца іншая мадэль. Я не кажу, што мы ідзём, мы спрабуем, намацваем — гэта вельмі складана. Справа нават не ў тым, што грошай не хапае, іх можна знайсці. Сітуацыя вельмі дзіўная, як на вакзале.

**М.Б.:** Па якіх прычынах яна склалася?

**Я.Ж.:** Ну, перш за ўсё эканамічная і палітычная нестабільнасць. Спачатку ў нас былі спонсары, сябры, якія тэатру дапамагалі, зараз ім самім патрэбна дапамога. Даводзіцца нам самастойна зарабляць грошы. Жорстка, а з другога боку — правільна. Мы павінны прайсці гэты этап. Але доўга так, мабыць, нельга. Можна скаціцца да ўзроўню халтурных брыгад.

**М.Б.:** Ці зможа Малы тэатр вытрымаць узровень Альтэрнатыўнага, ці не скоціцца ён, як вы сказалі, да ўзроўню халтурных брыгад?

**Я.Ж.:** Хочацца, каб гэтага не здарылася. Мы будзем працягваць лепшыя пачынанні Альтэрнатыўнага. Калі суб'ектыўна ацэньваць сітуацыю, на мой погляд, гады паўтара-два мы не працавалі. Ні з новымі рэжысёрамі, ні з новымі акцёрамі. Проста гублялі прафесійную падрыхтоўку. Гэта ў першую чаргу — мастацкі крызіс. Новая форма — Малы тэатр, што з гэтага атрымаецца? Ці мы будзем граць старыя спектаклі, ці будзем імкнуцца нешта паставіць? Для мяне апошняе было б важней.

**М.Б.:** Чаму знік Альтэрнатыўны тэатр?

**Ігар ЗАБАРА, мастацкі кіраўнік:** Ніхто нікуды не знікаў. Бо што такое тэатр? Гэта спектаклі. А яны засталіся. Вы бачылі, як да нас сёння прыйшлі гледачы. Было выстаўлена дадаткова 60 крэслаў, але людзі ўсё роўна стаялі ў праходах. А зала разлічана на 700 чалавек.

**М.Б.:** Значыць, вы лічыце, што Альтэрнатыўны тэатр не знік, а проста змяніў назву?

**І.З.:** Так. Галоўнае — якасць не змянілася.

**М.Б.:** Але ўсё ж функцыянаваць Малы тэатр будзе крыху іначай, чым Альтэрнатыўны?

**І.З.:** Проста мы зразумелі, што няма сэнсу ставіць вялікія пастаноўкі, накшталт "Браняносца "Пацёмкіна". Малы тэатр павінен суадносіцца са сваёй назвай — ён Малы, нас мала. А Малы тэатр у Маскве ўжо даўно Вялікі. Мы будзем ставіць маленькія спектаклі, з малой колькасцю акцёраў, але, спадзяюся, з вялікай якасцю. Патэнцыял трупы, тое, што мы заваёўвалі ў Альтэрнатыўным тэатры, застаўся. Хоць тэатрам чырвонай клізмы назаві, але, калі застануцца тыя ж самыя людзі, нічога не зменіцца. Калі б Смактуноўскі змяніў сваё прозвішча на Свістадзюрачкін, ён бы не стаў ад гэтага горшым акцёрам.

Адзінае, што нас падкошвае, — гэта адсутнасць пляцоўкі. Але ёсць адзін парадокс: чаму, нягледзячы на ўсё прэм'еры і звышаншлагі, дзяржава нам не дапамагае, зусім ніяк. Блакада, незразумелая наўмысная блакада. Гэтай палітыкі я не разумею. Што адбываецца? Калі была б хоць сімвалічная датацыя з боку дзяржавы, я думаю, што маглі б годна прадстаўляць Рэспубліку Беларусь на міжнародных фестывалях, што мы, дарэчы, і рабілі. У нас 8 Гран-пры з міжнародных фестываляў.

Зараз у нас рыхтуецца прэм'ера спектакля "Скарпіён" паводле Леаніда Андрэева, дзе будзе заняты цікавы склад акцёраў: Алена Сідарава, актрыса тэатра Янкі Купалы, Аляксей Шацько, акцёр Рускага драматычнага тэатра і я. Гэта першы наш вопыт прыцягнення акцёраў з іншых тэатраў. Рэжысёр-пастаноўшчык Валя Еранькова. Праблема пакуль у пляцоўцы. Хутчэй за ўсё гэта будзе Малая сцэна тэатра Янкі Купалы. Плануецца гэта прэм'ера пасля 20 кастрычніка. Запрашаем усіх чытачоў "Культуры". Спектакль вельмі цікавы, аўтар, да якога амаль не звярталіся тут яшчэ, і працы, па-мойму, таксама нядрэнныя.

**М.Б.:** У вас зараз праблемы са спонсарамі?

**І.З.:** Спонсары былі, і трэба аддаць ім належнае, нейкі час тэатр жыў добра. Але... Гэтая размова зараз не вельмі карэктная. У мяне да іх прэтэнзіі, у іх да мяне таксама. Мы разышліся, як разыходзяцца муж і жонка. Чаму гэта адбылося? Калі будзе расказваць муж — гэта будзе з аднаго боку, а калі жонка — з другога. Тут канешне ўзнікае пытанне, хто муж, а хто жонка? Сённяшні глядач паказаў, што ролю мужа выконваем мы.

**М.Б.:** Ці не прымусілі вашых спонсараў пайсці на гэты крок эканамічныя прычыны?

**І.З.:** Не, адназначна, не. Тут унутраныя праблемы. Мы разышліся па асабістых прычынах. Хоць за наш творчы патэнцыял і за сваю прафесію я адказваю на сто працэнтаў.

Яшчэ адзін момант наконт спонсараў. Грошы шукаюць для розных рэчаў: нехта хоча купіць машыну, нехта — дом на Канарах. Нам жа яны патрэбны на пастаноўкі, у нас класныя планы. У 1999 годзе будзе святкавацца 200-годдзе з дня нараджэння А.Пушкіна. У нас ужо ёсць адзін спектакль з "Маленькіх трагедый" — "Моцарт і Сальеры". Наша блакітная мара — паставіць усю абойму "Маленькіх трагедый" да 1999 года. Гэтага няма ні ў адным тэатры былога СССР. Я перакананы, што ЮНЕСКО зробіць гэты год годам Пушкіна, будзе шмат фестываляў.

**М.Б.:** Наколькі рэальна ажыццяўленне гэтай мары?

**І.З.:** Цяжка сказаць, але ва ўсялякім разе гэтая інфармацыя цяпер будзе ў газеце "Культура" і, калі нехта адгукнецца, я думаю, кантактныя тэлефоны газета дасць. А мы ў сваю чаргу будзем адказваць за якасць.

**М.Б.:** Вашыя акцёры яшчэ недзе працуюць?

**І.З.:** Ну вось Алег Гарбуз, наш акцёр, ён працуе ў Мазынскага на "Вольнай сцэне", але Мазынскі не ведае, што ён наш акцёр. Класна я цябе падставіў?!

**А.Г.:** Так, але я табе, Ігар, скажу, што наша прэса друкуе не аб'ектыўна...

**І.З.:** Не, "Культура" аб'ектыўна працуе... Адным словам, акцёры сёння не ў лепшым становішчы... Вымушаны дарабляць у галінах, далёкіх ад сваёй прафесіі, таму што ў людзей сем'і, якім патрэбна на нешта жыць. Мы ў сваім тэатры катаем зараз толькі тыя спектаклі, якія прыносяць прыбытак. Але ж у нас ёсць спектаклі заведама не касавыя, іх таксама трэба ставіць. І гэта цяпер адна з нашых задач: забяспечыць акцёраў працай, тым больш, што іх у нас усяго 9 чалавек.

**Святлана НІКІФАРАВА, актрыса:** Я прыхільніца ўсяго новага, і тое, што адбылося, гэта, мабыць, нармальна.

**М.Б.:** А што адбылося?

**С.Н.:** У прынцыпе нічога не адбылося. Справа ў тым, што, мабыць, кожны з нас за 7 гадоў сумеснай працы ў Альтэрнатыўным тэатры як бы вырас у Штосьці. Гэтае Штосьці немагчыма растлумачыць.

**М.Б.:** Прафесійны ўзровень стаў вышэйшы?

**С.Н.:** Магчыма, ці яшчэ нешта. Але сітуацыю трэба мяняць, каб глядач ішоў у тэатр.

**М.Б.:** Але, калі меркаваць па сёняшнім спектаклі, глядач ідзе да вас. Ці абавязкова патрэбныя нейкія рэвалюцыйныя меры?

**С.Н.:** Мабыць, патрэбны. "Камедыю" мы іграем даўно і ў нас увесь час былі аншлагі. Але гэта ўжо пройдзены этап, мы гэта ўжо можам. Трэба імкнуцца да таго, што мы не можам, да "Гамлета", да "Федры", яшчэ да чаго...

**М.Б.:** Як вы ацэньваеце сітуацыю з Альтэрнатыўным тэатрам?

**Таццяна БЕРАСНЕВА, галоўны адміністратар:** Я амаль не працавала ў Альтэрнатыўным тэатры, захапіла толькі самы канец, калі ў іх адбыўся нейкі распад, разлад. Я веру ў тое, што Малы тэатр будзе жыць і будзе такім жа любімым, якім быў Альтэрнатыўны. У Малога тэатра будзе свой глядач, я на гэта спадзяюся, веру ў гэта і прыкладу ўсе намаганні, каб так было.

*Спектакль закончыўся, але пытанне, якое прагучала ў самым пачатку, засталося без адказу: "Куды ісці?" Зараз яно павінна гучаць крыху іначай: "Куды ідзем?" Аднак і на яго наўрад ці хто дасць адказ.*

**Міхась БАШУРА**

СТРАТА

## ВІКТАР ЦІМАФЕЕВІЧ ТУРАЎ

Памёр народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат прэміі імя Ю.Тарыча, прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў, кінарэжысёр Віктар Цімафеевіч ТУРАЎ.

Ён нарадзіўся 25 кастрычніка 1936 года.

У гады вайны разам з маці прайшоў праз пекла гітлераўскага канцлагера ў нямецкім гарадку Ахэне. У 1955 годзе лёс звёў яго ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі з выдатным кінематаграфістам сучаснасці Аляксандрам Даўжэнкам, на курсе якога ён пачаў вывучаць рэжысуру. Запаветы настаўніка Віктар Цімафеевіч пранёс праз усё творчае жыццё.

Дэбютаваў ён на "Беларусьфільме" ў 1961 годзе ў кіноальманаху "Апавяданні пра юнацтва" (навела "Камбуд").

Першая поўнаметражная стужка Віктара Турава "Праз могілкі" паводле аповесці Паўла Ніліна стала значнай падзеяй не толькі ў беларускім, але і ў савецкім кінематографе. З глыбокай душэўнасцю і болем рэжысёр увасобіў у фільме вобразы тых людзей, якія ў гады нямецкай акупацыі згодна з заклікам сэрца рызыкавалі сваім жыццём і жыццём сваіх блізкіх, дапамагаючы партызанам.

"Апёкі" вайны працягвалі "падсілкоўваць" і далейшую творчасць Віктара Турава ў фільмах "Я родам з дзяцінства", "Вайна пад дахамі", "Сыны ідуць у бой", "Малодшы сярод братоў", "Пераправа".

Віктар Тураў быў мастаком актыўнай грамадзянскай пазіцыі, пастаянна ўвязваўся ў творчыя баі з тымі сацыяльнымі з'явамі, якія неслі пагрозу народу — ці то страта памяці ("Час яе сыноў"), ці то трагічныя наступствы п'янства ("Нядзельная ноч") альбо небяспека экалагічнай катастрофы ("Высокая кроў", "Чорны бусел").

Этапным для рэжысёра і айчыннага кінематографа стаў фільм "Людзі на балоце", пастаўлены паводле рамана Івана Мележа. За гэты твор рэжысёр і ягоныя калегі былі ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР; фільм меў вялікі міжнародны рэзананс, атрымаў прэстыжныя прызы на кінафестывалях краіны і свету.

Нельга не ўзгадаць і пра яшчэ адну карціну Віктара Турава, створаную для тэлебачання ў 1971 годзе паводле апавяданняў Івана Тургенева — "Жыццё і смерць дваранина Чартапханава". З пранізлівай настальгічнай інтанацыяй рэжысёр распавёў гледачам пра няўрымслівую, надзвычайную натуру рускага чалавека.

Апошні фільм "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях" Віктар Цімафеевіч стварыў у 1994 годзе.

Шмат высілкаў ён аддаў грамадскай дзейнасці ў Саюзе кінематаграфістаў БССР. З 1976 па 1981 год ён быў першым сакратаром Праўлення Саюза кінематаграфістаў.

У тым, што на Беларусі з'явілася маладая генерацыя кінематаграфістаў, — непасрэдная заслуга ягонай майстэрні, арганізаванай у Беларускай акадэміі мастацтваў.

Жалобна схіляем галовы перад выдатным талентам, якім быў наш калега Віктар Цімафеевіч Тураў.

Выказваем глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

**Праўленне Беларускага Саюза кінематаграфістаў**




### СА СВЕТЛАГА ПАКАЛЕННЯ "ШАСЦІДЗЕСЯТНІКАЎ"...

Летась у Беларускі Саюз кінематаграфістаў прыйшоў ліст з Масквы, ад Камісіі па святкаванні 100-годдзя сусветнага кіно. Камісія прасіла вылучыць "Браняносца "Пацёмкіна"" беларускага кіно, гэта значыць вызначыць лепшую карціну за ўвесь 70-гадовы перыяд існавання кінематографа рэспублікі. Натуральна, адказаць на гэтае пытанне ў Саюзе папрасілі кіназнаўцаў, крытыкаў. Прысуд вынеслі пасля даволі працяглага абмеркавання: лепшым фільмам назвалі "Я родам з дзяцінства" Віктара Турава. Не выключана, што хтосьці не палічыць рашэнне крытыкаў самым справядлівым і дакладным, аднак меркаванне людзей, якія не заўсёды шанавалі фільмы рэжысёра, каштуе дорага.

Такая высокая ацэнка фільма Турава 60-х гадоў нібыта абагульніла сапраўдную каштоўнасць гэтай асобы для нашага кіно. Велізарны ўплыў Турава на творчае жыццё "Беларусьфільма" добра вядомы. Так ужо атрымліваецца ў жыцці і ў мастацтве, што хтосьці робіцца першым і, як вядома, не заўсёды гэта звязана з той альбо іншай пасадай. На працягу многіх гадоў першым быў У.Корш-Саблін, пасля яго, пачынаючы з 70-х, у такой ролі выступіў Тураў. Творчую вышыню беларускага кіно двух апошніх дзесяцігоддзяў шмат у чым вызначаў ён.

Не трэба распавядаць, якія гэта былі складаныя гады для кінематографа, як некаторых кідала да розных творчых берагоў, як некаму хацелася паўдзельнічаць у рабаванні набытых маральных, творчых каштоўнасцяў. Тураў ніколі не здраджваў сваім творчым схільнасцям, не прыстасоўваўся да модных плыняў, з якімі нярэдка прыходзіла цынічнае стаўленне да чалавечага жыцця. ТураПОМувасабляў сабою светлае пакаленне "шасцідзесятнікаў", якія прыйшлі ў мастацтва, каб узвышаць чалавека, а не прыніжаць і таптаць яго. Гэтым творчым прынцыпам кінарэжысёр Тураў быў верны да сваіх апошніх дзён. Ён ніколі не падманваў, калі ў жыцці і на экране казаў пра любоў,да беларускай зямлі, да Радзімы. Беларусь была для Турава святым паняццем.

**Анатоль КРАСІНСКІ, старшыня Беларускага Саюза кінематаграфістаў**

### УРОКІ МАЙСТРА

Віктар Тураў адкрыў для сябе кінарэжысуру як найцікавейшую кнігу і прачытаў яе, не адрываючыся ні на імгненне, усю, да апошняй старонкі.

Для нас — выпускнікоў ВГІКа, слова "Майстар" мае асаблівы сэнс. Так мы называем свайго галоўнага Настаўніка ў кіно, педагога па майстэрстве, і ў кожнага з нас ён свой, адзіны. Але на "Беларусьфільме" Віктара Цімафеевіча Турава Майстрам называлі нават і тыя, хто ніколі не наведваў ягоны клас. Хаця зараз больш за дваццаць маладых людзей называюць яго Майстрам не толькі з-за пашаны і павагі да ягонага таленту. Гэта ягоныя сапраўдныя вучні. Мне пашанцавала выкладаць рэжысуру ў ягоных абедзвюх майстэрнях, і я бачыў тую ступень узнёсласці альбо засмучэння з прычыны студэнцкіх твораў, якія ў яго ніколі не выклікалі ўласныя творы. Кожная ўзнагарода, атрыманая студэнтамі на міжнародных кінафестывалях, ставілася грандыёзнай падзеяй, і яна радавала яго значна больш за свой уласны чарговы поспех.

Самыя галоўныя ягоныя ўрокі былі ўрокамі душы. Ён вучыў сваіх выхаванцаў дабрыні, веры ў самае лепшае ў чалавеку і любові, любові да Радзімы, да бацькоў, да жанчыны, да дзіцяці — Любові да Жыцця. Вучыў таму, што цалкам адчуваў сам.

Сёння ягоныя вучні пачынаюць свой самастойны шлях у кіно. Школа, што ў гэты складаны для кінематографа час Майстра не будзе побач. Але я ведаю, што ён навучыў іх шмат чаму і ў прафесіі, і ў жыцці. Я веру, што душа Турава, увасобленая ў ягоных вучнях, абавязкова з'явіцца нам на экране, і гэта будзе яшчэ адзін крок, зроблены пасля жыцця да вечнай чалавечай памяці.

**Аляксандр ЯФРЭМАЎ, кінарэжысёр, мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі кінаакцёра, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў**

### НЕ РЫХТАВАЎСЯ ДА СМЕРЦІ...

Гэта можа падацца дзіўным, бо я ніколі не здымалася ў яго стужках, акрамя невялікага эпізоду ў "Нядзельнай ночы". І ўсё ж гэты рэжысёр адыграў вялізную ролю ў маім творчым жыцці.

Я прыехала на кінастудыю "Беларусьфільм" у 1965 годзе з Масквы. І першым чалавекам, з якім я сустрэлася, быў Віктар Тураў. Нас пазнаёміў Валодзя Высоцкі, мой студэнцкі сябра. З лёгкай рукі Валодзі наша сяброўства з Віктарам працягвалася 30 гадоў.

Віктар стаў для мяне чалавекам, які дапамог мне зразумець і палюбіць Беларусь, яе культуру і, спадзяюся, самой увайсці ў гэту культуру. Як ён любіў сваю радзіму!.. Ведаеце, калі ён быў першым сакратаром Саюза кінематаграфістаў Беларусі, прыязджала шмат дэлегацый з розных краін, рэспублік, і Віктар сам быў гідам. Ён, наогул, быў вельмі цікавым чалавек, усё жыццё прагнуў ведаў...

Віктар лёгка ставіўся да быту, у яго была звычайная кватэра ў мікрараёне, з галоўнай каштоўнасцю — бібліятэкай. Калі да яго хто-небудзь упершыню прыходзіў, ён, як дзіця, чакаў гэтага воклічу: "Ах, якая бібліятэка!"... А як вочы свяціліся, калі дарыў кнігу...

Віктар мяне не здымаў, але мы сябравалі, і я бачыла, што перад запускам кожнай новай стужкі, яму было няёмка, ён пачынаў апраўдвацца, пакуль я сама не сказала: "Я ўсё разумею, я пакуль не ўпісваюся ў твой матэрыял, у гэту драматургію". Мы ніколі не сварыліся з гэтай нагоды. Сёлета на кінафестывалі ў Анапе ён з такой шчырай радасцю мне сказаў: "Люба, рыхтуйся. У мяне зараз цудоўны матэрыял ёсць на цябе і на Валодзю Гасцюхіна." Болей нічога не тлумачыў. Я чакала, бо ведала, што Тураў свае абяцанні выконвае...

А ён быў ужо хворы цяжка, але мужнасць якая! Ён не рыхтаваўся да смерці, ён рыхтаваўся да жыцця. Ён быў байцом і не жадаў адступаць перад смерцю. Мне здаецца, што яго апошняя паездка ў верасні на фестываль у Анапу была развітальнай. Ён нікому гэта не казаў, бо наогул не любіў жаліцца, а проста прыехаў апошні раз паглядзець на мора, на сяброў, якіх было шмат.

**Любоў РУМЯНЦАВА, заслужаная артыстка Беларусі**

### БЕЗ ТУРАВА КІНО АСІРАЦЕЛА... З РАЗВІТАЛЬНЫХ ПРАМОЎ:

**Віктар КАЗЬКО, пісьменнік:**

"Віктар Тураў памёр не ад фізічнай хваробы. Ад яе ён мог памерці падчас аперацыі пяць гадоў таму. Але калі быў ужо падпісаны прысуд, ён падняўся насуперак усім сваім нядобразычліўцам. Тураў пакутаваў болей ад той хваробы, якая сёння існуе ў кожным з нас, метастазы якой так моцна абхапілі ўсё нашае мастацтва. На сваім юбілеі Віктар Цімафеевіч, прымаючы медаль Ф.Скарыны, з сумам адзначыў, што гэта — першая ўзнагарода ад імя дзяржавы, якой ён аддаў усё сваё жыццё. І гэта праўда. Дарэчы, гэта лёс не толькі Турава, але і іншых сапраўдных мастакоў, у шэрагу якіх быў і Адамовіч, і ў нейкім сэнсе — Быкаў... Так атрымліваецца, што нашае беларускае мастацтва нібы жыве водбліскамі таго святла, якое адлюстроўваецца здалёк. І мы пачынаем цаніць сваіх творцаў тады, калі іх спачатку ацэняць дзе-небудзь у Маскве, Парыжы альбо Жэневе. А цяпер, калі ўсталяваны межы, мы страчваем і гэтую магчымасць.

Без Турава кіно асірацела. І што з ім будзе далей — невядома. Праўда, вельмі хочацца спадзявацца, што ўсё, што ён рабіў у кіно, чаму навучаў моладзь у творчым аб'яднанні "Юнацтва", атрымае свой працяг. І тады з'явяцца ў нас мастакі, якія здолеюць устаць на адзін узровень з Туравым, таму што зямля беларуская вельмі шчодрая на таленты..."

**Уладзімір ГАСЦЮХІН, акцёр, народны артыст Беларусі:**

"Мне пашчасціла быць побач з Віктарам Туравым у апошнія гады. І, мабыць, ні з кім ён не дзяліўся, як са мною, болем сваёй душы і сэрца. Так, такім сынам Белая Русь павінна ганарыцца. Гэта быў не "запісны" патрыёт — ён па-сапраўднаму, аддана і шчыра любіў сваю зямлю, кожны яе лапік. Але ягонага сэрца ставала і на тое, каб пакутаваць за лёс нашай вялікай і разбуранай краіны, якая звалася СССР. Гэта быў дзяржаўны чалавек. І ён ведаў, што кінематограф — гэта дзяржаўнае мастацтва. У савецкім кіно ён быў найярчэйшай зоркай. Быў вартым вучнем Аляксандра Даўжэнкі побач з Іаселіяні, Шэнгелая, Касымавай, а, значыць, быў родным сынам нашай вялікай зямлі. Тураў называў нас, апантаных кіношнікаў, метафарычна дакладна: "прыдуркі". І Віктар Цімафеевіч быў з шэрагу гэтых вялікіх "прыдуркаў", якіх становіцца ўсё меней і меней, бо з імі адыходзіць вялікая кінематаграфічная эпоха..."

**Міхаіл ПТАШУК: кінарэжысёр, народны артыст Беларусі:**

"Віктар Тураў — першы чалавек у беларускім кінематографе, які вывеў "людзей з балота" на сусветны экран. Першы, праз фільмы якога свет даведаўся, што ёсць такая маленькая краіна Беларусь, якую Віця так любіў і нікуды адсюль не хацеў ад'язджаць. Мы сёння яшчэ цалкам не ўсвядомілі, што адбылося з адыходам гэтага бясконца таленавітага чалавека. Гэтую страту для Беларусі, для нашай кінастудыі, у прыватнасці, для мяне асабіста немагчыма аднавіць, бо два дзесяткі гадоў ён быў маім блізкім сябрам і аднадумцам..."

**Яўген ВАЙТОВІЧ, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Літве:**

"Віктар Тураў быў апантаным чалавекам, які ўсё прапускаў праз сваё сэрца. Ягоная творчая і чалавечая энергія біла праз край. І гэтая апантанасць рабіла ягоныя фільмы з'явай у сусветным кіно. У Літве яго таксама любілі, ён шмат здымаў літоўскіх акцёраў, там засталіся ягоныя сябры. Ягоны блізкі сябар, кінарэжысёр Вітаўтас Жалакявічус, аўтар стужкі "Ніхто не хацеў паміраць", знаходзячыся ў шпіталі і даведаўшыся пра смерць Турава, з сумам сказаў мне і Банёнісу: "Так, Віця перахітрыў мяне — пайшоў раней за мяне..." Засталося адно суцяшэнне, што карціны Турава застануцца ў сусветным і нацыянальным кінолетапісе назаўсёды. Як і чалавечая памяць пра яго..."

### АПОШНІ АРГУМЕНТ

Калі я даведаўся пра смерць Віктара Цімафеевіча Турава, якога я наведаў у бальнічнай палаце літаральна за шэсць гадзін да трагедыі — ён знаходзіўся ўжо ў непрытомным стане, — у мяне імгненна з'явілася адчуванне пустаты. Нібыта ў палову нашага культурнага дома знянацку трапіў цяжкі снарад, і там, недалёка ад нас — пустата, дзірка, і толькі маўклівае падзенне сумнага восеньскага лісця...

Віктара Цімафеевіча я ведаў даўно — па выпадковых сустрэчах і сумеснай працы ў адной з камісій Мінгарвыканкама. Але асабліва зблізіліся мы за апошніх паўгода, калі ён, упершыню пасля смерці свайго блізкага сябра Уладзіміра Высоцкага, распавёў мне пра яго, падзяліўшыся сваімі ўспамінамі пра непростае сяброўства з Акцёрам і Бардам.

Перад самым 60-годдзем Віктара Цімафеевіча наша газета пачала публікацыю гэтых унікальных успамінаў: 42-і нумар з юбілейнымі віншаваннямі рэжысёру і пачаткам нашага "дыялога" пра Высоцкага ён паспеў яшчэ прачытаць. А наступны, 43-і, ужо не давялося...

Памятаю, з якой дакладнасцю, скрупулёзнасцю ён вычытваў рукапіс нашай шматгадзіннай гутаркі, каб — крый Божа! — не з'явілася ў тэксце якая-небудзь памылка або недакладнасць...

Годна нёс Віктар Тураў цяжар і гонар беларускай інтэлігенцыі. Сагнуты пад гэтым грузам, пакутаваў ад незаслужаных крыўдаў, часова, здаралася, замыкаў — і ўсё ж такі нёс гэты цяжар і гэты гонар, ніводнага разу не кінуўшы іх у бруд. У мастацкім і кінематаграфічным жыцці жывая прысутнасць Віктара Цімафеевіча, чалавека няпростага, захопленага, імклівага была своеасаблівым імпульсам высакароднасці, шчырасці, нагадваючы пра крытэрыі характара і артыстызму.

Сказана: смерць — не таямніца, таямніца — жыццё. І вычарпаўшы свой апошні аргумент, Віктар Цімафеевіч пакінуў нам адзінае — сваё жыццё, абкружанае датамі, свае творы, сваіх вучняў, свае ўспаміны, сваю любоў.

Твая незаспакоеная душа, Віктар, яшчэ побач з намі. Але хай усё, у што ты верыў, усё добрае, што ты зрабіў, дапамогуць ёй выбавіць вечны спакой. Хай будзе так.

**Барыс КРЭПАК, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, рэдактар аддзела газеты "Культура"**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Культура" глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага майстра кіно, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР, члена рэдкалегіі нашага штотыднёвіка ТУРАВА Віктара Цімафеевіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

КАМЕРТОН

# МАЛІТВА АНДРЭЯ МДЗІВАНІ

***Кампазітар — гэта не прафесія, гэта — прызванне, стыль і лад існавання. Старую ісціну пацвярджае нашае сённяшняе культурнае жыццё: нейкім цудам захоўваецца і працягвае развівацца беларуская кампазітарская школа. У сценах кансерваторыі атрымліваюць адукацыю тыя нямногія, хто вырашыў прысвяціць сябе здзіўляючаму і таямнічаму рамяству — стварэнню музыкі. А ў канцэртных залах і на сцэне Тэатра оперы і балета час ад часу гучыць новая музыка беларускіх кампазітараў. У леташнім тэатральным сезоне самай шумнай прэм'ерай стала пастаноўка балета "Страсці" ("Рагнеда") з музыкай Андрэя Мдзівані, які даўно і трывала заслужыў прызнанне слухачоў сваёй арыгінальнай сімфанічнай і тэатральнай музыкай — многім вядомая ягоная музычная камедыя "Дзяніс Давыдаў".***



**— Андрэй Юр'евіч, Вы займелі і ўжо даволі даўно шматлікія рэгаліі: заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар. У вас ёсць творы і буйных, і малых формаў. А вось да балета Вы звярнуліся, здаецца, упершыню — я маю на ўвазе Ваш балет "Страсці"...**

— Не, вопыт у мяне ўжо быў, бо я напісаў балет "Данка" паводле твора М.Горкага, але, на жаль, ён не быў увасоблены на сцэне. Увогуле балет — вельмі складаны свет, у ім ёсць такія асаблівасці, якім ніхто — у тым ліку і кансерваторыя — не можа навучыць. А ў цэлым праца над "Рагнедай" доўжылася тры гады.

**— Вы ўзяліся за вельмі складаную тэму, якую можна інтэрпрэтаваць па-рознаму. Тэма хрышчэння Русі, сутыкнення паганскага і хрысціянскага светаўспрыманняў адлюстраваны ў балеце з пункта гледжання нашых сучаснікаў, людзей канца другога тысячагоддзя...**

— На маю думку, многія праблемы сучаснага свету і пачуцці сучаснага чалавека — сквапнасць, тыранія, тэрарызм — сягаюць каранямі ў паганскія часы. Уяўленне пра паганства — адна са складанасцяў, якія ўзніклі падчас стварэння балета. У асноўным я абапіраўся на літаратурныя крыніцы. Напрыклад, "Летопись временных лет" Нестара. А ў музычным стылі балета, умоўна кажучы, тры вобразы: паганскі, заснаваны на спецыфічным гукавым радзе, праваслаўны — з апорай на харавую малітву і візантыйскі — гімнічнага характару. У спецыяльнай літаратуры мне пашчасціла знайсці звесткі, што візантыйцы вельмі любілі гімны, так бы мовіць, музычныя дыфірамбы.

Галоўнае ўражанне ад той эпохі — адсутнасць спачування, безліч братазабойчых войнаў. Узгадайце хаця б гісторыю Барыса і Глеба. На маю думку, шлях чалавецтва ішоў ад паганства да хрысціянства, да спачування, да адчування віны і болю. Менавіта хрысціянства ўнесла ў чалавечае існаванне ўзвышаную пачуццёвасць, навучыла чалавека пакаянню. Таму ў паганскіх сцэнах балета адсутнічае ўсялякая сентыментальнасць і лірыка.

**— У кантэксце балета цікава і неадназначна вырашаны вобраз Уладзіміра: спачатку гэта "чорны" чалавек, які сее вакол сябе зло, затым менавіта ён кіруе хрышчэннем Русі, і напрыканцы спектакля перад намі — грэшнік, які пакаяўся. На якія крыніцы Вы абапіраліся ў трактоўцы гэтага вобраза? Частка аўдыторыі не ўспрыняла яе. Да таго ж вядома, што Уладзімір у гонар 1000-годдзя хрышчэння Русі быў прылічаны да святых.**

— Разбурэнне міфа заўсёды ўспрымаецца балюча. Безумоўна, больш традыцыйным з'яўляецца вобраз "Уладзіміра — Чырвонага Сонейка". Але ўжо Нестар узгадвае, што Уладзімір піў: "На Русі без піцця кепска". На ягоным рахунку нямала добрых спраў, але і шмат злачынстваў — ён згвалтаваў Рагнеду на вачах у бацькоў, затым забіў іх, а пазней і свайго зводнага брата Яраполка. Згодна з маімі ўяўленнямі і зыходзячы з біяграфіі Уладзіміра, можна зрабіць выснову аб тым, што ў яго з дзяцінства быў комплекс непаўнацэннасці, нейкія хібы ў душы. Мабыць, таму, што ён быў пазашлюбным сынам князя Святаслава. Ягоная маці — Малуша — прыслужвала княгіні Вользе, хаця і была паходжання высакароднага — дачкой князя палян. Святаслаў, маючы двух сыноў — Яраполка і Уладзіміра, — першага пакінуў пры сабе, а Уладзіміра разам з дзядзькам, легендарным Дабрынем Мікітавічам, адаслаў у Ноўгарад. Пазней Уладзімір сабраў войска, напаў на Полацк з мэтай падпарадкаваць сабе потым і Кіеў. І вось менавіта такі чалавек хрысціў Русь агнём і мячом, наладзіўшы сапраўдную бойню.

**— Галоўная гераіня балета адыходзіць, такім чынам, на другі план, хаця гэта моцная, страсная, незвычайная асоба.**

— Вобраз Рагнеды задумваўся мною ў развіцці. Ёй было толькі 14 гадоў, калі яе сасваталі за Яраполка. І напачатку яна — няўрымслівая дзяўчынка-падлетак. Адмова Рагнеды Уладзіміру каштавала ёй асляплення Яраполка, смерці бацькоў, разбурэння роднага Полацка. Паступова Рагнеда ператвараецца ў жанчыну, якая пакутуе і нават спрабуе забіць Уладзіміра.

**— Паводле Вашай версіі, першай хрысціянкай на Русі была візантыйская царыца Ганна.**

— Так, у балеце ёсць сцэна аповеду Ганны пра хрысціянства, пра фрэскі, якія яна прывезла з сабою. Тэма Візантыі з'яўляецца ў балеце невыпадкова. Русь часта рабіла напады на Візантыю, у прыватнасці на Канстанцінопаль. І Візантыя вырашыла парадніцца з Уладзімірам праз царыцу Ганну, умовай шлюбу з якой было прыняцце хрысціянства. Таму Уладзімір вымушаны быў распусціць свой гарэм, дзе ён трымаў дзяўчат са знатных родаў.

**— Звяртае на сябе ўвагу выразная сцэнаграфія балета, дзе замест абагульненай вобразнасці прысутнічае іканапісная.**

— Згодна з маёй настойлівай просьбай мастак Вячаслаў Окунеў увёў у спектакль стылізаваную выяву абраза "Траеручыцы". Я ўбачыў гэты абраз у Саратаве. Паводле легенды, жанчына з дзіцем пайшла па ваду і, калі падымала вядро з вадою, дзіця выпала ў яе з рук. Яна так закрычала, што Гасподзь зліташаўся і даў ёй трэцюю руку, каб падтрымаць немаўля. Гэты абраз з'яўляецца ў спектаклі пасля сцэны хрышчэння, перад фінальнай малітвай — ён апускаецца на сцэну зверху і ўспрымаецца як блаславенне.

**— Гэтак жа ўспрымаецца харавая малітва, гучанне якой даносіцца зверху, нібыта з неба. Хор знаходзіцца на балконе, і ўступ ягоны настолькі нечаканы, што ў слухачоў літаральна мароз прабягае па скуры. І адначасова гэта доўгачаканае з'яўленне агучанага слова і чалавечага голасу, якое стварае эфект катарсіса.**

— Спектаклю патрэбны быў непрадказальны фінал. 90 хвілін несупыннай інструментальнай музыкі трымаюць слухача ў пастаянным напружанні. І раптам узнікае гэтая малітва, якая цягнецца доўга — 7 хвілін — нібыта голас самога сумлення, як нейкая духоўная прастора, дзе магчыма асэнсаванне і разуменне ўсяго, што адбываецца. У гэты момант у зале стаіць асаблівая цішыня.

**— Я ведаю, што гэта не першы Ваш зварот да духоўнай тэмы. У 1979 годзе Вы стварылі харавы цыкл на вершы ранняга Ясеніна, дзе прысутнічае вобраз Госпада. Па тым часе гэта была, мякка кажучы, непапулярная тэма.**

— Так, і я ўдзячны Віктару Уладзіміравічу Роўдзе, які падтрымаў мяне і са сваім хорам выканаў гэты твор. Я і зараз перакананы, што адлучэнне духоўнай музыкі ад вуха кампазітара збядніла нашу музычную культуру, зрабіла яе аднабаковай. У выніку мы не можам пахваліцца творамі кшталту "Высокай месы" І.-С. Баха альбо "Усяночнай" С.Рахманінава.

**— Гісторыка-рэлігійная і філасофская тэма нейкім чынам прысутнічае ў многіх Вашых творах. Цікавасць Ваша да яе даўняя і трывалая. І Вашыя творчыя планы на будучыню знітаваныя з адным з самых значных твораў сусветнай літаратуры...**

— Так, гісторыя мяне цікавіла і ў часы стварэння араторыі "Вольнасць" на словы Радзішчава, дзе надзвычай актуальнай аказалася тэма тыраніі: народ з нецярплівасцю чакае смерці тырана, але з'яўляюцца новыя ўладары, якія адпускаюць усе грахі, прапаведуюць уседазволенасць, — і гэта значна горш за тыранію.

Мая, умоўна кажучы, "полацкая" тэма прайшла праз некалькі твораў — Пятую сімфонію з падзагалоўкам "Памяць зямлі", Шостую — "Полацкія лісты" ("Еўфрасіння, Сімяон, Францыск") і балет "Страсці" ("Рагнеда"). Такім чынам, прыход да балета з такім сюжэтам быў для мяне невыпадковы. Дарэчы, мая жонка паходзіць з Полацка, і гэта таксама адбілася на выбары тэм.

А зараз я захоплены паэзіяй Дантэ, ягонай слыннай "Боскай камедыяй", якую, дарэчы, сам ён не называў "боскай". У гэтым вялікім творы Дантэ закрануў "знакі цёмнага колеру", вечныя і актуальныя праблемы, пра якія гаворыць высокім стылем, поўным дынамікі. Для сучаснага чытача гэтая камедыя без сумнення актуальная: у кожнага з нас бывае ў жыцці перыяд, калі пасля авалодання чымсьці каштоўным — багаццем, уладай — ён ператва-

РОК-ФРАГМЕНТЫ

***Наўрад ці хто аспрэчыць тое, што цікаўнасць СМІ да сучаснага мастацтва і, у прыватнасці, рок-музыкі, і была, і пакуль што застаецца недастаткова вялікай. І менавіта таму па-за ўвагай часцяком застаюцца даволі значныя ўплывовыя падзеі нашага рок-жыцця. Недастатковая інфармаванасць ніколі не адыгрывае пазітыўнай ролі, і таму мы вырашылі запоўніць прабел, узніклы ў беларускай рок-журналістыцы, і змяшчаем матэрыялы пра падзеі музычнага жыцця гэтага года, належным чынам дагэтуль не асветленыя. Хаця варта, напэўна, сказаць пра іх колькі словаў.***

# ДАРОГА ВОЛЬНАЯ. НЯМА ЯК РУШЫЦЬ.

Сёлета ў рамках маладзёжнай праграмы Беларускага Фонду Сораса адбыўся рэспубліканскі фестываль альтэрнатыўнай музыкі пад назвай "Саступі дарогу". Ад імпрэзаў падобнага кшталту за апошні час мы бадай паспелі адвыкнуць, і таму ўтрая больш шкада, што гэтыя добрыя пачынанні так і не прывялі да адпаведных вынікаў.

На такіх ціхіх фестывалях мне не даводзілася прысутнічаць ужо даўнавата. Патрапіўшы без асаблівых клопатаў у памяшканне былога кінатэатра, а цяпер танцавальнага цэнтра "Салют", мы з калегам крышку пашвэндаліся сярод млявай яшчэ на пачатку забаваў дыскатэчнай публікі, пераважную частку якой гэты фэст ніякім чынам не цікавіў, і, урэшце, патрапілі ў залу, дзе і меўся адбывацца канцэрт. Пасля надзвычай кароткай афіцыйнай часткі на сцэну выйшаў гурт "HDD Name" — піянеры тутэйшай камп'ютэрнай музыкі. Адсутнасць добрага гуку, добрага святла і хоць якой значнай колькасці зацікаўленай публікі не маглі стварыць добрага настрою нікому. Нягледзячы на тое, што ўсё адбывалася ў дыскаклубе з прэтэнзіяй на фешэнебельнасць, атмасфера ў зале чымсьці нагадвала паўпадвальныя сэйшны постперабудовачных часоў. А гэтае падабенства не зусім дарэчы для фестываля, галоўнай мэтай якога было раскруціць, ці, прынамсі, паказаць публіцы новыя твары на беларускай альтэрнатыўнай сцэне. Наўрад ці гэта хоць як-кольвечы атрымалася, бо мерапрыемствам не ўдалося зацікавіць ані шырокую публіку, ані прадстаўнікоў СМІ, ані нават рок-багему. Абсалютна безуважнымі да конкурсу былі і надзвычай нешматлікія ў нас прадзюсеры дый іншыя працаўнікі на глебе шоу-бізнесу. Карацей, адчуванне падзеі, падзеі, калі не паваротнай, дык, прынамсі, этапнай для нашага музычнага жыцця ў мяне падчас канцэртаў напоўніцу адсутнічала. Зрэшты, не было яго бадай ні ў кога. Людзі патанчылі пад прыдатную для гэтага музычку "HDD Name" дый пайшлі танчыць да раніцы ў іншую залу пад аднастайнае да галаўнога болю рэйв-тэхна. Падзеі ніякай і не адбылося, хаця арганізатары, мабыць, і намагаліся яе стварыць, запрасіўшы вядомыя расейскія гурты "Tequila Jazzz" і "Наив". Нягледзячы нават на адносна танны кошт квітка, народ, як гаворыцца, "не пайшоў". Што, зрэшты, цалкам зразумела з ягонага боку — няма чаго рабіць тым, хто любіць андэграўндную музыку ў забаўляльным дыскацэнтры для нябеднай моладзі. Сама атмасфера не тая.

Што ж тычыцца конкурсу ўвогуле... Паставіліся да яго ў музычных колах з даверам дый энтузіязмам. Было пададзена 168 заявак, прычым усе яны, за выключэннем хіба некалькіх дзесяткаў — з Мінска. Я вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што ў Мінску ёсць такая колькасць невядомых мне "альтэрнатыўшчыкаў" (амаль усе, каго я ведаў, паставіліся да конкурсу адразу скептычна дый ніякіх заявак не падавалі). Але здзіўляўся я не доўга, бо стала зразумела, што падавалі на конкурс усе, хто толькі мог, — ад калектываў, якія выконваюць класічны рок-н-рол, да трэш- і дэс-металістаў. Гэта і не дзіўна, бо вельмі незразумела ў нашых варунках, што можна лічыць альтэрнатыўнай музыкай дый паводле якіх крытэрыяў яе ацэньваць. Нават самое паняцце разумеецца на Беларусі вельмі неадназначна. Альтэрнатыўная музыка — гэта музыка, альтэрнатыўная... чаму? Саладуху дый ягоным калегам па рамяству? Гімну БССР? Дык паводле гэтых крытэрыяў "альтэрнатывай" можна назваць і Данчыка з Акулiным. Традыцыйна пад гэтым даволі расплывістым паняццем разумеюць музычную творчасць, ідэалагічна незалежную ад патрабаванняў маскультуры (ці, прынамсі, адносна незалежную), якая не ставіць сабе за першасную мэту займець шырокі попыт у грамадстве, і таму гэтым попытам зазвычай і не карыстаецца. Яшчэ адзін аспект — некамерцыйнасць. Усё гэта робіць магчымымі самыя дзівосныя эксперыменты, што, у сваю чаргу, уплывае на ўсю музычную культуру.

А якую музыку можна лічыць альтэрнатыўнай у нас, сказаць цяжка. Бо фактычна адсутнічае і рок-майнстрым, а дарога, якую ініцыятары конкурсу не надта ветліва прапануюць саступіць, па вялікім рахунку, не занятая ў нас нікім. Пра тое, каб сваёй творчасцю зарабляць нейкія больш-менш сур'ёзныя грошы, ніхто з нашых рок-музыкантаў нават і не марыць. Можа, хто і марыць, але нікому ад гэтага не лягчэй.

Не мог не ўскладніць працу журы яшчэ і той фактар, што нават тая музыка, якую збольшага пэўна можна ахарактарызаваць як альтэрнатыўную, вельмі моцна ў нас адрозніваецца па сваёй, скажам так, сутнасці. Бо ў нашай падуладнай усім вятрам Беларусі хтосьці "косіць" пад заходні "індэпендэнт", камусьці больш любае тое, што робіцца ў Расіі, і вельмі мала ў каго атрымліваецца ствараць нешта сапраўды сваё. Дый і ўвогуле з-за ўсёй гэтай разнастайнасці музычных тэндэнцый нашай альтэрнатыўнай музыкі цяжка адназначна і аб'ектыўна сказаць, хто тут лепшы, а хто горшы.

Па словах каардынатара маладзёжных праграм БФС Наталлі Пляхановай, галоўным крытэрыем ацэнкі якасці дэманстрацыйнага матэрыялу быў прафесіяналізм выканаўцаў. Прафесіяналізм, безумоўна, рэч істотная, хаця ён не заўжды суправаджаецца наяўнасцю нейкіх новых музычных ідэй. Затое больш-менш абектыўна. Склад журы, дарэчы, чамусьці засакрэчаны. Добра, што не засакрэчаныя прынамсі імёны пераможцаў. Гран-пры атрымалі гурты "Троица", "Hasta la fillsta", "Andrew's answer" і згаданая ўжо вышэй каманда "HDD Name" — адзіны раней вядомы калектыў з усёй чацверкі, які выглядае хаця і зладжана, але даволі сціпла і прымітыўна, асабліва калі яго параўноўваць з тым, што робіцца (дакладней, ужо рабілася) у заходняй электроннай музыцы. Наўрад ці прагрэсіўнай можна назваць творчасць "Хасты ля фільсты" — амаль дакладнай копіі легенды ангельскага постпанку "Сьюзі энд зэ Бэншыз". Пра тое, што граюць астатнія, сцвярджаць штосьці пэўнае цяжка, добра іх не паслухаўшы. Апроч Гран-пры была яшчэ і першая прэмія, якая дасталася дзесяці гуртам: "The Lemons", "Autism" і г.д. Што робяць у гэтым спісе "Буржуазия", якая грае нешта кшталту хард-рока, хай сабе і нетрадыцыйнага, сказаць цяжка. Як, зрэшты, і кантры-блюзавая "Sam Grey".

Цікавым падаўся мне таксама і спіс прызоў. Галоўнае, адпаведным

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# СВЕТ, ВАРТЫ ВЯРТАННЯ

У Пасольстве Рэспублікі Польшча прайшла літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная творчасці класіка польскай паэзіі Віславы Шымборскай. Сумесны праект Першага сакратара Пасольства Паўла Пшэцішэўскага і арганізатара канцэртнай праграмы Элеаноры Скуратавай дазволіў стварыць атмасферу сяброўства і наладзіць дыялог паміж прадстаўнікамі нашых культур. Гэтаму спрыяла і гучанне твораў польскіх кампазітараў, якія выконвалі дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Вера Лагвіненка і студэнтка Вікторыя Юдовіч. Вершы чытала народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

У 1990 годзе ў нас быў выдадзены зборнік вершаў Віславы Шымборскай "Свет, варты вяртання" (серыя "Паэзія народаў свету") у перакладзе Ніны Мацяш. Паводле словаў рэдактара зборніка Васіля Сёмухі, кніжка выходзіла з пэўнымі цяжкасцямі, бо паэзія сёлетняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў тыя часы была малазразумелай для выдаўцоў. Сваімі ўспамінамі на вечарыне падзяліўся народны пісьменнік Янка Брыль, на якога ў 50-я гады Шымборская зрабіла ўражанне як паэтка, што працуе ў яркім сацрэалістычным рэчышчы.

Кожны з нас мае права пакланяцца ў пэўны перыяд ідалам, пасля ў іх разняверыцца. Час пакідае асноўнае, важкае, тое, што патрэбна чытачу, і тут прыклад Шымборскай вельмі паказальны. Сёння яе паэзія патрэбна нам перш за ўсё як прыклад цалкам незалежнага выяўлення творцы, незалежнага як ад палітычных перыпетый, так і эстэтычных догмаў.

Польская амбасада на Беларусі становіцца яшчэ адным важным цэнтрам культурнага жыцця сталіцы, сведчанне таму — у бліжэйшы час мяркуецца правесці шэраг сумесных мерапрыемстваў з беларускімі музыкантамі і паэтамі.

**Алесь ТУРОВІЧ**

# ПОШУК УЗОРУ СУЧАСНАГА ЧАЛАВЕЦТВА

— Я ашаломлена, здзіўлена, узрадавана, уражана і ўсцешана, — сказала Віслава Шымборска прадстаўніку "Rzeczypospolitej", які наведаў яе 3 кастрычніка адразу пасля таго, як па радыё абвясцілі аб прысуджэнні ёй Нобелеўскай прэміі.

Яна дадала: Баюся, што нейкі перыяд не буду мець спакойнага жыцця.

Французская газета "Liberation" у артыкуле "Нобель для Віславы Шымборскай" паведаміла, што Нобелеўская акадэмія, прысуджаючы ёй прэмію ў галіне літаратуры, назвала яе "Моцартам паэзіі". Пры гэтым адзначыла, што Шымборскую мала ведаюць у Францыі, таму што большасць перакладаў была выканана вядомым нямецкім паэтам Карлам Дэдэцыусам. Дэдэцыус, які пераклаў на нямецкую мову і выдаў ажно 4 томікі яе вершаў, аказаўся сапраўдным вяшчальнікам творчасці паэтэсы ў Еўропе, асабліва ў нямецкамоўных і скандынаўскіх краінах.

А ў Польшчы, на думку той жа газеты, Шымборска мае вялікую папулярнасць. Сваёй паэзіяй яна зачаравала палякаў розных пакаленняў. Паэтэса вядома таксама сваімі перакладамі французскай паэзіі перыяду сярэднявечча і барока. Апублікавала шмат зборнікаў вершаў і нарысаў, перакладаемых сёння на 36 моў, у тым ліку кітайскую, японскую і яўрэйскую.

"Figaro" ў артыкуле "Віслава Шымборска — праніклівая, з'едлівая, і іранічная" сцвярджае, што Шведская каралеўская акадэмія матывавала свой выбар Шымборскай характарам яе паэзіі, якая дакладна прадстаўляе фрагменты чалавечай праўды ў гістарычным і біялагічным кантэкстах. Вялікая лэдзі польскай паэзіі, якая называе сябе рацыяналісткай і атэісткай, займаецца паэзіяй з містычнай і метафізічнай афарбоўкай.

Хуан Карлас Відаль — дырэктар варшаўскага філіяла Інстытута Сервантэса — параўноўвае маралізуючую, амаль афарыстычную, паэзію Шымборскай з творчасцю сучасных вядомых паэтаў, адначасова падкрэсліваючы, што яе паэзія — гэта ўзор жаночай паэзіі. Яшчэ адзін іспанец — Сергія Пітоля ў газеце "ABC" піша, што Віслава Шымборска з'ўляецца знакамітым, але таямнічым і завуаляваным ад свету, літаратарам, які ізалюецца ад розных арганізацый, саюзаў, а таксама з'ездаў польскіх пісьменнікаў. Яе паэзія мае вытокі ў польскім рамантызме XIX ст., на яе аказала ўплыў паэзія Эліёта. Польская паэзія надзвычай багатая, хоць і малавядомая, сёння перажывае сапраўднае адраджэнне. У лірыцы Шымборскай чалавек толькі на першы погляд — статыстычная лічба, адначасова — гэта цэлы сусвет, ад рашэнняў якога залежыць лёс свету. Адсюль маралістычны тон яе паэзіі асацыіруецца з беспамылковым пачуццём гумару і пачуццёвым біялагізмам. Дзякуючы чаму яна пазбягае дыдактыкі, якая так раздражняе чытача. Не павучае, няма ў яе папяровых праблем, чалавек — гэта істота з крыві і касцей. Можна знайсці ў яе надзвычай жаноцкія вершы, напрыклад: пра жонку Лота ці Касандру, але гэта, перш за ўсё, лапідарныя рэфлексіі аб тым, што ўсё мае канец, аб месцы



чалавека другой паловы XX стагоддзя ў сусвеце, яго страхах, вялікасці і смешнасці. Галоўнай тэмай, якой яна цалкам аддаецца, з'яўляецца тэма чалавецтва як біялагічнага віду, што зусім не азначае адсутнасці ў Шымборскай радасці творчасці. Творчасць для яе з'яўляецца тым, што часам экзістэнцыяналісты называюць "дотыкам да вечнасці", ці, дакладней, спосабам бессмяротнасці.

Але і гэтае сцверджанне часам яна іранізіруе, жартуючы і дыстансуючы ад разважанняў пра бессмяротнасць: Mon omnis mopisr — гэта для мяне заўчасны смутак. Філасофскі і метафізічны жарт як бы спецыяльнасць нашай паэтэсы, якая ў вершы "Цыбуля" назвала ідэю дасканаласці звычайным ідыятызмам. У паэзіі В.Шымборскай, несумненна, глыбока закаранёнай у традыцыі польскай лірыкі, сустракаюцца лаканічныя афарызмы, як у Леца, прыёмы гратэску, як у Гамбровіча, іронія, як у Рамантыкаў. Але самым істотным з'яўляецца, аднак, пошук узору сучаснага чалавецтва ў эпоху няпэўнасці, неспакою і няўстойлівасці розных аўтарытэтаў. Шымборска паказвае чалавека, які адчувае сваю прыналежнасць не толькі да людской сям'і, але і да ўсяго свету, чалавека, які адчувае сябе братам жывёл, а нават раслін, не трацячы таксама пачуцця сувязі з гісторыяй і будучыняй.

В.Шымборска, якая нарадзілася 2 ліпеня 1923 года ў велькапольскім Бніне, сёння раён Курніка, належыць да таго пакалення, што і пісьменнікі-зубры нашай літаратуры, як Кшыштаф Каміл Бачыньскі, Тадэвуш Ружэвіч, Вітаўт Гамбровіч, Збігнеў Герберт і Тадэвуш Бароўскі.

Дэбютавала Шымборска крыху пазней за аднагодкаў. Першыя вершы апублікавала ў 1945 годзе на старонках кракаўскага часопіса "Walka", звязанага з ПРП, што паўплывала на яе ідэйную накіраванасць на некалькі бліжэйшых гадоў. Як студэнтка паланістыкі і сацыялогіі Ягелонскага універсітэта апублікавала прапагандысцкія сацрэалістычныя вершы, якія пазней увайшлі ў школьную праграму. Аднак ужо напярэдадні кастрычніцкага перавароту 1956 года ў адным з вершаў яна называе Сталіна "снежнай бабай" і падобна большасці сваіх аднагодкаў становіцца актыўным крытыкам таталітарнай сістэмы. Пазнейшая эвалюцыя пры захаванні ўсёй левай выхаванасці прывяла яе да супрацоўніцтва з буйнейшай у гісторыі ПНР дысідэнцкай групоўкай — Камітэтам абароны рабочых. Супрацоўнічала таксама з парыжскім штомесячнікам "Kultura" і "Instytutem Literackim" — галоўнымі органамі польскай дэмакратычнай эміграцыі, дзе свае творы змяшчала пад псеўданімам "Станчыкава".

У 1953 — 1981 гг. была звязана з кракаўскім часопісам "Życie Literackie", дзе публікавала свае паэтычныя фельетоны ў рубрыцы "Lektury nadobowiazkowe" ("Пазапраграмныя чытанні"). Пазней гэту рубрыку яна ўзнавіла ў "Газеце выборчай", якая пачала выходзіць з 1989 г. На працягу свайго жыцця апублікавала 15 тамоў паэзіі, якія атрымалі надзвычай высокую ацэнку крытыкаў і чытачоў. Сярод іх два дэбютанцкія "Навошта жывем?" (1952) і "Пытанні, скіраваныя да сябе" (1954), а астатнюю частку складаюць ужо "спелыя" творы, як, напрыклад, "Усякі выпадак" (1972), "Вялікая лічба" (1976), "Людзі на мосце" (1986), "Пачатак і канец" (1993). Паэтэса падчас ваеннага стану адмовілася прыняць Прэмію літаратурнага фонду.

У школьнай праграме і сёння можна знайсці яе адносна раннія вершы, напісаныя ў канцы 50-х гадоў. Сярод іх звяртаюць на сябе ўвагу такія, як "Урок", "Музей", "Галодны лагер пад Яслам". Яны з'яўляюцца як бы паказчыкам таго, што Шымборска ўвайшла ў самае шырокае літаратурнае асяроддзе.

Паэтэса шмат разоў была адзначана і ўзнагароджана, як у Польшчы, так і за мяжой. На сваім рахунку мае ўзнагароду горада Кракава, Узнагароду Міністра культуры і мастацтва Польшчы, нямецкія ўзнагароды імя Гётэ (1991) і імя Гердэра (1995), атрымала тытул ганаровага доктара Познаньскага універсітэта імя А.Міцкевіча, а за некалькі дзён да Нобелеўскай прэміі была ўзнагароджана прэміяй польскага PEN-клуба.

Варта яшчэ паўтарыць словы Карла Дэдэцыуса аб паэтэсе пасля яе ўзнагароды Нобелеўскай прэміяй: "Паэтычная спадчына Віславы Шымборскай па аб'ёме невялікая, але надзвычай важная. Я высока цаню своеасаблівасць яе паэзіі, якая з'яўляецца надзвычай інтэлектуальнай, часта нават у большай ступені, чым мужчынская паэзія. У Шымборскай адносіны да акружаючых іранічныя, якія цяжка імітаваць. Напэўна таму Ружэвіч і Мілаш маюць шмат паслядоўнікаў, а Шымборску немагчыма наследаваць. Пасля ўзнагарод Гётэ і Гердэра для яе заставалася толькі Нобелеўская прэмія. Мяркую, што ў мяне "лёгкая рука" для будучых нобелеўскіх лаўрэатаў, падобна, як вершы Мілаша, паэзію Шымборскай перакладаў ужо ў 50-я гады. Паэзія Шымборскай у маім перакладзе была высока ацэнена ў Германіі знаўцамі, і сёння, пасля Нобелеўскай узнагароды, можна разлічваць на стотысячны тыраж...

Анджэй Вайда адзначыў, што поспех В.Шымборскай радуе тым больш, што яна з'яўляецца постаццю, надзвычай сціплай, якая жыве і заўсёды жыла адна і не робіць нічога, каб звярнуць на сябе ўвагу. Сапраўды фантастычна, што яе талент і яго сапраўдная моц былі заўважаны і раскрыты.

**Павел ПШЭЦІШЭЎСКІ,**
**Першы сакратар Пасольства Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь**



### РУХ

*Ты тут плачаш, а там скачуць,*
*скачуць у тваёй слязе.*
*Там гулянне, там забавы,*
*там бязвінная няўцямнасць.*
*Вось як бы мігценне люстраў,*
*як бы свечак яркі бляск.*
*Як бы сходкі, як пад'езды.*
*Як манжэта, як бы жэст.*
*Шалахвосты хлор і натрый,*
*вадарод і кіслард,*
*франт азот — як там віруюць,*
*ападаюць, узлятаюць,*
*як віюцца ў вышыні.*
*Ты тут плачаш, а ім граеш.*
*Eine kleine Nachtmusik.*
*Маска-масачка, ты хто?*

### А ЧАЦВЁРТАЙ РАНІЦЫ

*Гадзіна з ночы на дзень.*
*Гадзіна з боку на бок.*
*Гадзіна трыццацігадовых.*
*Гадзіна, пад спеў пеўняў*
*схаваная дарэшты.*
*Гадзіна, калі ўпарта зямля*
*не хоча нас.*
*Гадзіна, калі зоркі ўжо пагаслі*
*ўраз.*
*Гадзіна ці-пакінем-пасля-*
*сябе-хоць-нешта.*
*Гадзіна пустая.*
*Глухая, нікчэмная.*
*Дно ўсіх астатніх гадзін.*
*Усім нядобра а чацвёртай*
*раніцы.*
*Калі мурашкам добра ў гэты*
*час —*
*што ж, павіншуйма іх,*
*мурашак. І хай настане пятая,*
*калі далей наканавана жыць.*

# ЕЎРАПЕЙСКІЯ ДЭМАКРАТЫІ

Наша газета ўжо не аднойчы знаёміла сваіх чытачоў з кнігамі, якія выходзяць у серыі "Адкрытае грамадства", заснаванай Беларускім фондам Сораса. На гэты раз мы звяртаем увагу на грунтоўны доследа Юрга Штайнера "Еўрапейскія дэмакратыі" (выдавецтва ТАА "Лекцыя", 1996 г. Пераклад з англійскай Ігара Карпікава. Рэдактар Кастусь Тарасаў. Навуковы рэдактар Ларыса Чарнышова).

Юрг Штайнер — прафесар паліталогіі універсітэта Паўночная Караліна ў Чэйпэл Хіл і Бернскага універсітэта ў Швейцарыі. Вось што аўтар сам кажа пра сваю працу: "Кніга "Еўрапейскія дэмакратыі", напісаная еўрапейцам для амерыканскіх студэнтаў, узнікла ў выніку шматгадовага выкладання не толькі ў амерыканскіх, але і ў еўрапейскіх універсітэтах. Першае выданне канцэнтравала ўвагу на Заходняй Еўропе. Другое выданне рыхтавалася ў драматычныя месяцы краху камунізму ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, цяпер, калі я рыхтую гэтае, трэцяе выданне, граніцы адкрыліся па ўсёй Еўропе. Савет еўрапейскіх даследаванняў, які прапануе еўрапейскія навуковыя праграмы ў амерыканскіх універсітэтах, рэкамендуе, каб будучае вывучэнне Еўропы ахапіла не толькі заходнюю, але і Усходнюю Еўропу, выкарыстоўваючы параўнальны падыход. Трэцяе выданне "Еўрапейскіх дэмакратый" прытрымліваецца гэтай рэкамендацыі".

Ад сябе дададзім, што кніга Юрга Штайнера прапаноўвае нікім яшчэ не даследаваныя старонкі гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, аналізуе еўрапейскія палітычныя сістэмы, праблематыку нацыянальных і этнічных пытанняў...

Пра каштоўнасць працы Юрга Штайнера сведчыць і тое, што яна ўваходзіць у спіс абавязковай літаратуры Міністэрства адукацыі Польшчы. Мяркуем, не лішне будзе звярнуць увагу на гэтую кнігу і Міністэрству адукацыі Беларусі.

**В.А.**


КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 4.11.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 1202
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**